ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

**№ 15** (2313) 15 красавіка 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

*АДБЫЎСЯ III З'ЕЗД ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ*

## З НАДЗЕЯЙ І ТРЫВОГАЙ

26—27 сакавіка ў Доме літаратара ў Мінску адбыўся III з'езд ТБМ імя Ф.Скарыны. Калі першы з'езд у 1989 годзе можна параўнаць з праменямі ранняга золаку, другі — з узышоўшым веснавым сонцам, то трэці прайшоў ва ўмовах зацьмення нашага нацыянальнага сонца, наступу тых, хто не хоча бачыць жыццё беларускага народа ў яго поўным роднамоўным інфармацыйным асяроддзі. Як зацьменне сонца, нават поўнае, — з'ява часовая, так і рэакцыйныя сілы, што выступаюць супраць адраджэння і незалежнасці Беларусі, адступяць пад уздзеяннем агульначалавечых законаў развіцця нацыянальных культур супольнасці народаў свету. Адняць родную мову ў беларусаў немагчыма.

На з'ездзе ніхто не заклікаў адкрыта, але ва ўсіх прамоўцаў гучаў лейтматыў: каб стварыць натуральныя ўмовы для вяртання беларускай нацыі яе роднай мовы ва ўсе сферы жыццядзейнасці, неабходна на дзяржаўным узроўні спыніць шматгадовы працэс русіфікацыі і працэс паланізацыі, які пачаўся апошнім часам.

Галоўным пытаннем з'езда быў аналіз дзейнасці таварыства па выкананню Закона аб мовах. Дакладчык Ніл Гілевіч выказаў асаблівую занепакоенасць тым, што ўстаноўленыя законам тэрміны яго выканання і адпаведных артыкулаў не будуць выкананы. Сёння дакладна бачна, што ўстаноўлены законам тэрмін на працягу трох гадоў (канец 1 верасня 1993 года) з моманту ўступлення яго ў сілу артыкулы 11 — "Мова дакументаў аб статусе грамадзян Беларусі", 27 — "Мова ў сферы навукі", 28 — "Мова ў сферы культуры", 29 — "Мова сродкаў масавай інфармацыі", 31 — "Мова аб'яваў і паведамленняў", 32 — "Мова маркіроўкі тавараў", 35 — "Мова асабовых імён" выкананы не будуць. Аб выкананні артыкулаў, для якіх вызначаны тэрмін на працягу 5 ці 10 гадоў, дзяржаўныя структуры і не думалі. Толькі прыведзеныя факты дазваляюць запытацца ў Вярхоўнага Савета і ўрада Рэспублікі Беларусь, хто павінен несці адказнасць за невыкананне Закона аб мовах і парушэнні 68 артыкула Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларусі наступнага зместу: "Дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова. Беларуская ССР забяспечвае свабоднае выкарыстанне рускай мовы як мовы міжнацыянальных зносін народаў Саюза ССР". Артыкул 68 прыняты 26 студзеня 1990 года. Нагадаем, што Закон аб мовах і артыкул 68 Канстытуцыі прыняты Вярхоўным Саветам мінулага склікання. Як бачым, афіцыйна камуністычны Вярхоўны Савет па пытаннях дзяржаўнасці мовы займаў пазіцыю, якая грунтавалася на навуковых прынцыпах і агульначалавечых законах развіцця моў, культур народаў свету. Дэпутаты таго складу Вярхоўнага Савета добра разумелі, што "мова — не толькі сродак зносін, а і душа народа, аснова і важнейшая частка яго культуры. Жыве мова — жыве народ". Толькі за гэтую пазіцыю і за артыкул 68 Канстытуцыі Вярхоўны Савет мінулага складу заняў пачэснае месца ў гісторыі Беларусі.

Гаворачы аб бяздзейнасці дзяржаўных чыноўнікаў па вяртанню беларусам роднай мовы, Ніл Гілевіч зазначыў, што ТБМ — добраахвотная грамадская арганізацыя. Мы не можам загадваць, прыцягваць да адказнасці за ігнараванне закона. Разам з тым у межах статутных магчымасцей ТБМ слаба дапамагае дзяржаўным органам у выкананні Закона аб мовах. І дакладчык, і дэлегаты адзначалі, што ТБМ магла заняць больш актыўную пазіцыю ў барацьбе з кампаніяй за ўвядзенне дзяржаўнага двухмоўя. Сусветная навука і палітыка яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя прыйшлі да агульнай высновы, што на тэрыторыі монанацыянальнай краіны дзяржаўнай мовай павінна быць толькі мова карэннай нацыі і ніякая іншая. Таму навязванне беларусам дзяржаўнага двухмоўя — гэта сілавая імперская пазіцыя на замацаванне расійскага аднамоўя для беларусаў і іх бязмоўя ў асяродку роднай мовы. Такі працэс называецца асіміляцыя і духоўны генацыд.

Пачэснай задачай ТБМ з'яўляецца далучэнне беларусаў да роднай мовы, дапамога, каб стаць патрыётамі роднае мовы. Асновай дзейнасці ТБМ з'яўляецца суполка. Але, як прызнаў дакладчык, мы маем ганебную карціну: у 42 раёнах са 117 няма арганізацыі ТБМ, а гэта больш трэцяй часткі тэрыторыі Беларусі. І калі быць патрабавальнымі да сябе і адказнымі за адраджэнне беларускай нацыі, тыя поспехі, якія мае ТБМ, не апраўдваюць нашу бяздзейнасць. Адраджэнне патрабуе ахвярнасці ў самым глыбокім і шырокім сэнсе. На жаль, шчырых рупліўцаў, апантаных сяброў ТБМ на ніве адраджэння роднай мовы вельмі і вельмі мала. Іх праца, іх шчырасць у зманкуртаваным грамадстве не заўважаецца і вельмі часта зневажаецца, нават у асяроддзі таварыства.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## БЕЛАРУСЫ АРГЕНЦІНЫ



**Сёння, з працягам у некалькіх нумарах, мы пачынаем друкаваць гісторыка-публіцыстычны нарыс Кастуся Шалястовіча "Беларусы Аргенціны". У ім — спроба даць чытачу гістарычную рэтраспектыву заснавання, станаўлення і жыццядзейнасці беларускай іміграцыі ў гэтай краіне Лацінскай Амерыкі, пачынаючы ад канца XIX стагоддзя і заканчваючы днём сённяшнім.**

**На вялікі жаль, падсвядома ці свядома, але ў цяперашніх сувязях Бацькаўшчыны з дыяспарай далёкага замежжа амаль не знаходзіцца месца нашым суайчыннікам, працоўным імігрантам з берагоў Рыо-дэ-Ла-Платы. А пра ваенна-палітычную эміграцыю, дык упершыню пойдзе гаворка менавіта ў гэтым нарысе. Прэтэнзіі на вычарпальнасць, на катэгарычнасць у ім няма. І быць не можа. Матэрыял збіраўся па кроплях. Больш скрупулёзны аналіз наперадзе, і хочацца спадзявацца, што многія аўтары і даследчыкі возьмуцца за яго ажыццяўленне. Асабліва пасля прыняцця будучага Закона аб архівах, пра які столькі гаворкі. Дый нельга не ўлічваць, што і навукова-тэарэтычная, і афіцыйная, і ардынарная думка Аргенціны ніколі не вылучала нашых суродзічаў як асобны этнас. Бо яны ніколі не прыязджалі ў Аргенціну пад сваім сапраўдным імем... І тая ж грамадскасць, не задумваючыся, прыпісвала іх, як і большасць украінцаў, яўрэяў, паволжскіх немцаў-менанітаў, да "рускіх". І адно "цяперачка", як гавораць ла-плацкія беларусы старога пакалення, аргенцінцы толькі адкрываюць тэра інкогніта, Белую Русь...**

**Аднак не засохла беларускае дрэва пад вятрамі паўднёваамерыканскай пампы. Дарма што перамолвалі яго жароны палітыкі, ідэалогіі, крызісаў, нарэшце асіміляцыі. Не засохла і дало маладыя парасткі, для якіх радзіма бацькоў і дзядоў — частка духоўнай існасці і багацця. Як для гэтай дзяўчыны (на здымку) у нацыянальным строі з беларускай абшчыны горада Абера, пераможцы конкурсу прыгажунь на свяце Дзень імігранта.**

**(Матэрыял "Беларусы Аргенціны" змешчаны на 5-й стар.).**

## РАЗЗБРОЙВАЕМСЯ




**...Серабрыстыя МіГі-27 выстраіліся па пляцоўцы. Праз нейкі час ад гэтых прыгажуноў застануцца дэталі і кучы металу: на базе "Лясная" пад Баранавічамі пачалі знішчэнне баявых самалётаў. Акцыя праводзіцца ў адпаведнасці з Міжнародным пагадненнем па звычайных узброеных сілах у Еўропе. На першым этапе будзе ліквідавана 10 баявых машын. Частка атрыманых пры разборцы матэрыялаў ад самалётаў пойдзе для патрэб народнай гаспадаркі. За разборкай гэтай тэхнікі наглядаюць інспектары з замежных краін.**

Фота **В. АЛЯШКЕВІЧА.**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ НАВАСЕЛЛІ*

## У МІНСКУ І ВАШЫНГТОНЕ

**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ЗША Дэвід Суорц і намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Астапенка 5 красавіка падпісалі дакумент аб перадачы пасольству ЗША будынка ў Мінску, а ў гэты ж дзень у Вашынгтоне атрымала свой будынак і пасольства Беларусі. Абодва бакі ацанілі гэтую падзею як доўгачаканы крок да ўмацавання сяброўскіх і партнёрскіх адносін паміж дзяржавамі і імкненне да пастаяннай доўгатэрміновай дзейнасці. Пасольству ЗША выдзелена былая генеральская рэзідэнцыя, а беларускае пасольства ў Вашынгтоне атрымала будынак, які з'яўляецца архітэктурным помнікам XIX стагоддзя.**

*ГОЛАС НІЗОЎ*

## ЗАХАВАЦЬ НЕЙТРАЛІТЭТ

**Беларускі цэнтр сацыяльнага і палітычнага прагнозу правёў даследаванне, мэтай якога было вызначэнне пазіцыі грамадзян у адносінах да таго, трэба ці не Беларусі падпісваць дагавор аб калектыўнай бяспецы краін СНД. Апытанне праводзілася ў 18 гарадах (Пінску, Брэсце, Кобрыне, Наваполацку, Верхнядзвінску, Оршы, Гомелі, Лоеве, Рагачове, Гродне, Лідзе, Мінску, Барысаве, Бабруйску, Маладзечне, Заслаўі, Шклове, Магілёве) і прылеглых вёсках.**

**За падпісанне дагавора аб калектыўнай бяспецы выказалася менш палавіны апытаных (42,5 працэнта). Большасць сёння падзяляе ідэю дзяржаўнага нейтралітэту, недалучэння да ваенна-палітычных блокаў (54,9 працэнта).**

*НА КАНГРЭСЕ МАЛАДЫХ ПАЛІТЫКАЎ*

## ШЛЯХ У ЕЎРОПУ

**Беларусь інтэгруецца ў Еўропу не раней 2005 года. Такую думку выказаў міністр замежных спраў рэспублікі Пётр Краўчанка, выступаючы на І нацыянальным Кангрэсе маладых палітыкаў Беларусі, які нядаўна адбыўся ў Мінску.**

**Хоць Беларусь і еўрапейская дзяржава, але на вяртанне ў Еўропу — палітычна і эканамічна — нам спатрэбіцца не менш 20 гадоў. Спачатку туды прыйдуць некаторыя краіны былога Савета Эканамічнай Узаемадапамогі. Затым да 2000 года ў Еўропу дабярэцца Балтыя. Ну а Беларусь, як заўсёды, у канцы чаргі — замыкаючай.**

**Вось толькі гэта зманлівая лічба "20" непакоіць: некалі нам абяцалі праз 20 год пабудаваць камунізм, потым праз 20 год кожны павінен быў атрымаць асобную кватэру. Цяпер жа нам абяцаюць Еўропу. Што гэта — ракавая лічба!**

*ПЕРАБУДАВАЛІСЯ*



**У мірных мэтах пачалі выкарыстоўваць напрацоўкі абароннай прамысловасці вучоныя гомельскага канструктарскага бюро "Прамень". У цэнтры іх даследаванняў — электрамагнітная энергія. Яе яны "прымушаюць" служыць на карысць людзям: ствараюць медыцынскае абсталяванне, апараты экспрэс-аналізу якасці збожжа, сістэмы камерцыйнага тэлебачання і многае іншае.**

**НА ЗДЫМКУ: начальнік участка Анатоль РОДЗІН і інжынер-праграміст Людміла ПЕРАВІСЛАЯ правяраюць шматфункцыянальны электракардыёграф.**

*"БРЫЛЬЯНТАВЫ БІЗНЕС"*



**"Святы Георгій" — першы ў рэспубліцы прыватны ювелірны магазін — адкрыўся ў Гродне па вуліцы Карла Маркса, 8.**

**Скажаце, не час цяпер думаць пра брыльянты! З гэтым можна паспрачацца. Кожны ювелірны магазін — гэта частка валютнага фонду любой дзяржавы. І няхай багатыя людзі ўкладваюць свае грошы ў золата і брыльянты. Падаткі, якія ў гэтым выпадку ідуць у казну, значна вышэйшыя за паступленні, скажам, ад камерцыйнага магазіна, які гандлюе калготкамі, туалетнай вадой і памадай. Так што дзяржаве ад "брыльянтавага" бізнесу — прамая выгада. Акрамя таго, "Святы Георгій" робіць шчодрыя дабрачынныя ўзносы: царкве, ахове здароўя, Чырвонаму Крыжу. Гаспадар магазіна Георгій Хацянкоў, ён жа ўладальнік Маскоўска-Якуцкага гандлёвага дому, дабавіў у гэты спіс яшчэ і міліцыю. Што ж, разлік правільны: хто добра плаціць, таго добра і ахоўваюць. На вітрынах "Святога Георгія" прадстаўлены надзвычай шырокі асартымент ювелірных вырабаў на любы густ, а галоўнае — на любы кашалёк: ад 37 тысяч рублёў да некалькіх мільёнаў. Гандлёвы дом мае кантракты па ўсяму свету: упрыгажэнні пастаўляюць з Ізраіля і Ерэвана, Галандыі і Харватыі, з Украіны і з Грузіі. У гэтым сэнсе наш Белювелірганадаль, на жаль, не канкурэнт.**

**"Святы Георгій" — першы ў сваім родзе ў Беларусі, але цэлая сетка магазінаў Г.Хацянкова ўжо дзейнічае ў іншых краінах СНД.**

**У бліжэйшы час рыхтуецца адкрыццё новых таксама ў Мінску, Брэсце, Віцебску.**

**НА ЗДЫМКУ: у дзень адкрыцця гродзенскі магазін "Святы Георгій" асвяцілі служыцелі царквы.**

*ДАЛУЧАЕМСЯ ДА СУПОЛЬНІЦТВА*

## ГОД ПАЖЫЛЫХ ЛЮДЗЕЙ

**У сувязі з аб'яўленнем Еўрапейскім супольніцтвам 1993 года Годам пажылых людзей і салідарнасці пакаленняў Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пастанавіў аб'явіць 1993 год Годам пажылых людзей і салідарнасці пакаленняў у Рэспубліцы Беларусь.**

**Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовым Саветам народных дэпутатаў даручана вызначыць меры па правядзенню Года пажылых людзей і салідарнасці пакаленняў у Рэспубліцы Беларусь.**

*КАНТРАБАНДА*

## САМАЛЁТ НЕ ЎЗЛЯЦЕЎ

**У Гродне спынена спроба вывазу за межы рэспублікі буйной сумы грошай — больш як 100 мільёнаў наяўных расійскіх рублёў. Грошы былі ўпакаваны ў 17 мяшкоў, знаходзіліся ў спецыяльна зафрахтаваным самалёце, які ўжо рыхтаваўся да палёту, і прызначаліся быццам бы на закупку для рэгіёна гаруча-змазачных матэрыялаў.**

**Дзякуючы паспяхова праведзенай беларускімі чэкістамі і іх калегамі з Украіны аперацыі кантрабандны самалёт не падняўся ў паветра. Стала вядома, што дакументы на атрыманне такой вялікай сумы ліпавыя і ніякага дагавора на пастаўку гаручага няма.**

*ВАКОЛ ДАГАВОРА*

## МОМАНТ ІСЦІНЫ ПАРЛАМЕНТА

11-я нечарговая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь уваходзіла, здавалася, у стадыю завяршэння больш ці менш мірнай тыднёвай працы. Як нечакана грымнула... І звонку "нескладанае" пытанне аб заключэнні эканамічнага саюза з Расіяй і дагавора аб калектыўнай бяспецы ў межах СНД, раптам вынесенае на разгляд дэпутатаў, узвінціла і кінула грамадскую думку на чарговую верхнюю прыступку нервознасці, дыскусій, супрацьборства.

Парламентарыі з першай спробы не прынялі рашэнне... 1-га красавіка не хапіла кворуму... Вярхоўны Савет робіць перапынак да 8-га... Праходзіць закрытае пасяджэнне прэзідыума парламента і ўрада...

6 красавіка ў Вярхоўным Савеце адбылася прэс-канферэнцыя апазіцыі БНФ, прысвечаная гэтай тэме. У ёй узялі ўдзел народныя дэпутаты З. Пазьняк, С. Навумчык, Л. Баршчэўскі, У. Заблоцкі, В. Голубеў.

Лідэр апазіцыі З. Пазьняк засяродзіўся на палітычных момантах справы. Чаму менавіта цяпер ставіцца такое пытанне? А таму, лічыць ён, што адбыўся поўны правал эканамічнай палітыкі ўрада, які імкнецца захаваць старыя структуры, спадзяецца на пастаўкі расійскай нафты па нізкіх цэнах. Але Расія не будзе гандляваць па-старому, гэта ілюзія, там добра ці кепска, але ж ідуць рынкавыя рэформы, а на Беларусі не. Да таго ж падпісаны дзесяткі пагадненняў у рамках СНД, якія не дзейнічаюць. Чаму так усё адбываецца? З. Пазьняк бачыць прычыну ў наступным. Заканамерна, што калі ўзнікае новая дзяржава, дык павінны праводзіцца новыя выбары, прыходзіць да ўлады новы ўрад. На Беларусі гэтага не здарылася. Урадавыя колы разумеюць, што, на думку прамоўцы, ім падтрымкі знутры не будзе. Таму разлік робіцца на знешнюю дапамогу, на незаконна адроджаную на XXIX з'ездзе КПСС, на ідэі рэанімацыі былога СССР.

Дагавор аб калектыўнай бяспецы немагчыма заключаць і таму, што Расія вядзе баявыя дзеянні. У краіне безуладдзе. Акрамя таго, у Расійскіх Узброеных Сілах становішча катастрафічнае. Цяперашні вясновы прызыў у войска дасць толькі 16 працэнтаў забяспечанасці нававбранцамі. І пасля таго, як Беларусь увойдзе ў сістэму калектыўнай бяспекі, у "гарачых" кропках СНД будуць выкарыстоўвацца беларускія вайскоўцы, як "гарматнае мяса".

Народны дэпутат З. Пазьняк зрабіў выснову: "Далучэнне да дагавора аб калектыўнай бяспецы — антыдзяржаўная змова".

Балтыйска-Чарнаморскі Саюз (БЧС), за стварэнне якога выступае апазіцыя, гэта працяг нейтралітэту. Гэта не ваенны саюз. У БЧС ёсць перспектыва развіцця, у ім зацікаўлены ўсе краіны рэгіёна. "І калі ўступіць у ваенны блок з Расіяй, то як тады быць з Украінай?" — задаў пытанне З. Пазьняк.

В. Голубеў падкрэсліў, што адмова ад нейтралітэту прывядзе да страты Беларуссю аўтарытэту ў міжнародным супольніцтве, а таксама да пагаршэння адносін з Польшчай і краінамі Прыбалтыкі. Увогуле дагавора аб калектыўнай бяспецы паміж краінамі СНД не існуе. Яго ратыфікавала толькі Арменія. Расія не збіралася гэтага рабіць.

Л. Баршчэўскі нагадаў прысутным, што на мінулай сесіі ВС Рэспублікі Беларусь была прынята ваенная дактрына, якая грунтуецца на паслядоўным курсе нейтралітэту і без'ядзернасці. Пытанне аб калектыўнай бяспецы не падрыхтавана як след да вынасу на разгляд сесіі: не былі праведзены адпаведныя перамовы і кансультацыі з суседзямі. Няма і эканамічнага абгрунтавання дагавора, як мяркуе У. Заблоцкі. Народны абраннік абгрунтаваў журналістам сваю тэзу аб тым, што вырашыць праблемы ВПК уваходжаннем у калектыўную бяспеку можна толькі часова і часткова. ВПК трэба канверсаваць кардынальным чынам.

С. Навумчык бачыць выйсце ў тым, каб вынесці гэтае пытанне на суд беларускага народа, на рэферэндум.

...7 красавіка ў той жа зале прайшла прэс-канферэнцыя Камісіі Вярхоўнага Савета па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю, у якой узялі ўдзел народныя дэпутаты В. Грыб, М. Скарынкін, Г. Казлоў, Л. Прывалаў.

Старшыня камісіі В. Грыб адзначыў, што парламент зрабіў правільна, даўшы магчымасць дэпутатам падумаць у перапынку. Прэзідыум ВС даручыў цэламу шэрагу міністэрстваў і ведамстваў вынесці свае заключэнні на гэты конт, што ўжо зроблена. Такое ж даручэнне мела і група экспертаў. Усе камісіі парламента ўжо зрабілі свае высновы. Большасцю галасоў Савет Бяспекі вырашыў рэкамендаваць сесіі далучыцца да дагавора ад 15 сакавіка 1992 года. З трыма папраўкамі, сэнс якіх у тым, каб нашы вайскоўцы не прымалі ўдзел у ваенных дзеяннях.

Матывацыя міністра абароны генерал-палкоўніка П. Казлоўскага заключалася ў тым, што ў Беларускім войску склалася цяжкая сітуацыя. Армія забяспечана бюджэтам толькі на 50 працэнтаў. У падрыхтоўцы афіцэраў усе разлікі Расія намагаецца весці ў валюце, калі Беларусь не ўвойдзе ў сістэму калектыўнай бяспекі. "Нішто не перашкаджае нам далучыцца да дагавора", — безапеляцыйна заключыў кіраўнік вышэйшага ваеннага ведамства Беларусі.

...9 красавіка Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў рашэнне далучыцца да Дагавора аб калектыўнай бяспецы.

**С. АКОЎКА.**

З НАШАЙ ПОШТЫ

# НАМ ЯШЧЭ ТРЭБА ДАРАСЦІ

МНЕ, беларусу, вельмі хочацца, каб мы як цывілізаваная нацыя нарэшце перасталі шукаць ворагаў унутры нашага грамадства — правых і левых — і пачалі сур"ёзна працаваць, а не толькі выступаць з прыгожымі прамовамі з высокіх трыбун, з-за якіх нават лектара не бачна слухачам. За пачэсную справу беларушчыны трэба змагацца сярод людзей...

Як бы нас песімісты ці аптымісты ні дзялілі на "нашых" і "чужых", на "добрых" і "дрэнных", усім нам нарэшце трэба ўсвядоміць, што Рэспубліка Беларусь — гэта наш агульны карабель. Ёнужо, на жаль, тоне. І калі мы разам у 1993 годзе не залатаем дзірак у гэтым караблі, ён можа трапіць на дно, ужо які раз у гісторыі стане чыйнебудзь калоніяй. Калі ў шторм каманда замест аўралу пачынае паміж сабой высвятляць адносіны, што можа чакаць такі карабель? Аналагічна атрымліваецца і ў нашай маладой суверэннай Беларусі. Партый многа, таксама аратараў, што раз"язджаюць па блізкім і далёкім замежжы як прадстаўнікі беларускага народа, а спраў, дзейсных і канкрэтных, пакуль не бачна.

Надоўга свядомым беларусам запомніцца забарона рэферэндуму аб роспуску парламента. Большага ўшчамлення свабоды нават нельга прыдумаць. Чым не сталінскі рэжым, калі з воляй народа ні на грош не лічыліся ўлады... Пасля гэтага агіднага кроку я перастаў цалкам давяраць дэпутатам, пра што б прыгожа і ўзнёслае яны ні гаварылі. І што гэта ў нас за абраннікі, якія дазваляюць сабе па 100 чалавек штодзённа прапускаць-прагульваць, як школьныя троечнікі, пасяджэнні сесіі?

Трэба нам, браткам-беларусам, нарэшце турнуць ад цёплай кармушкі паўнашчокіх апаратных малойцаў, якіх, акрамя ўласных кватэр (сабе, дзецям і ўнукам), катэджаў і машын (службовых і ўласных) больш нічога ў жыцці не хвалюе.

Чаму так здарылася, што напрыканцы XX стагоддзя ў Беларусі не аказалася падзей, якіх можна аднесці да рангу знамянальных?

Назіраецца развал эканомікі, культуры, у школах, як і ў застойныя гады, перавага аддаецца рускай мове не як мове блізкага замежжа, а як роднай мове беларуса. Ідзе гвалтоўнае збядненне беларускага народа. А мы, інтэлігенты, стаім дзесьці ўбаку, абыякава назіраем і нават пляскаем у далоні, калі ў краме без чаргі ўдалося купіць таннай каўбасы, а калі яшчэ і маянэзу — то, наогул, на сёмым небе ад сабачага шчасця...

Панове! Не трэба сябе адурманьваць тым, што мы дажылі да росквіту дэмакратыі. Наша дэмакратыя мне нагадвае ржавыя баржы без вугалю ў брудным вадзе, якія робяць халасты, нікому не патрэбны рэйс...

Яшчэ ад "дастойнага сына народа" Л.Брэжнева мы навучыліся пляскаць у далогі і крычаць "ура", калі трэба і не трэба. Яшчэ ад М.Гарбачова мы навучыліся, што любы "працэс можа пайсці", асабліва калі добра памуціць ваду. Працэс дэмакратызацыі, на жаль, у нашым анархічным і напаўцывілізаваным грамадстве проста не можа ні пайсці, ні паехаць на службовай машыне, бо мы яшчэ як нацыя не дараслі, не даспелі да пачэснай справы дэмакратызацыі.

Дрэнна ў нас і ў школе, і ў "навукова-камуністычных" ВНУ навучылі аналізаваць сацыяльны з"явы. Нават вучоныя ці пісьменнікі сёння ў нас не здольны зрабіць сацыяльны аналіз сучаснага жыцця. Дык ці патрэбны Беларусі такія псеўдавучоныя, якія і ў свае шаноўныя 70 год "цягаюцца" на працу ў акадэмію, а толькі карысць каму ад такога цягання і крэмзання нейкіх псеўданавуковых артыкульчыкаў дзеля справаздачы?..

Не трэба нам, панове, клясці ўчарашні дзень. Гэта ж наша гісторыя. Трэба лепш вучыцца, каб у XXI стагоддзі не паўтараць мінулых памылак. Чаадаеў некалі сказаў: "Адмовіцца ад свайго мінулага — значыць пазбавіць сябе будучыні"...

Хочацца, каб стабілізавалася наша жыццё, каб Вярхоўны Савет і ўрад, калі яны здольны, спынілі шалёны галоп цэн. А калі не — дык вызвальце, калі ласка, учарашнія апаратчыкі, месцы ў парламенце маладым і больш разумным... Сівізна на галаве — гэта яшчэ не сведчанне розуму для працы ў парламенце...

...Шалёны галоп цэн можа загнаць беларусаў да смерці, прычым, — галодны, як дрэнны гаспадар заганяе добрага каня, калі не дае яму перадыху і аўсу ці хоць вотруб"я з вадой...

Радуе мяне станаўленне нашай нацыянальнай дыпламатыі. Толькі такім шляхам пра нас на глобусе змогуць даведацца лепш. Радуе мяне і тая праца па адраджэнню Беларусі, якую праводзяць нашы суайчыннікі як далёкага, так і блізкага замежжа.

Консульскія пытанні, пытанні дагаворна-праваі, пытанні дзяржаўнага пратакола, пытанні двухбаковых сувязей — гэта, спадары, не другараднае для нашага маладога грамадства. І не трэба нам стаіцца на пазіцыю недасведчанага чалавека, агулам ахайваць усё ў Беларусі — і добрае, і дрэннае... Праўда, на жаль, дрэнага ў нас пакуль больш. Але, на шчасце, добрых людзей у нашай рэспубліцы больш, чым злых...

Кіраўнікам краін СНД трэба часцей збірацца разам, каб сумесна больш паспяхова і эфектыўна вырашаць істотныя пытанні для ўсіх нацый былога СССР. Беларускім дэлегацыям у шэрагу замежных краін трэба больш эфектыўна працаваць на глебе ўзаемааднося паміж народамі планеты і беларусамі. І, безумоўна, дыпламатам, як і нашым міжнароднага класа спартсменам трэба размаўляць на чужыне па-беларуску. Бо мова — гэта твар любой нацыі... А што за твар у нашых дыпламатаў, калі яны размаўляюць з гасцямі на мове суседняга народа — расейскай?..

Кожнаму беларусу сёння варта захапіцца літаратурай па гісторыі Беларусі, па мастацтву. Бо толькі агульнымі намаганнямі ўсяго народа можна глыбока асэнсаваць гісторыю нашай Бацькаўшчыны.

Не трэба нам звярэць! Нават пры самых дрэнных сацыяльных умовах трэба заставацца чалавекам, Беларусам з вялікай літары. Хочацца згадаць словы папы Льва XIII, які роўна 100 год назад у сваёй энцыкліцы пісаў, што чалавек з"явіўся раней за дзяржаву. І чалавек павінен, лічу, кіраваць дзяржавай, а не дзяржава — служыць робатам-машынай для прыгнечвання людзей.

Не трэба быць ваўкамі ці сабакамі сярод людзей! Нават сабакі сярод сабак так не паводзяць, як мы, стомленыя і абяссіленыя, у розных шматлікіх чэргах жыцця і ў блуканнях па пакутах... Нельга аддзяляць сябе і сваю будучыню ад будучыні Беларусі XXI стагоддзя. Якімі мы выхаваем нашых дзяцей і ўнукаў сёння, так яны заўтра і будуць жыць.

Дрэнна, што нашы "хітрыя" законы вельмі лоўка абмяжоўваюць правы рабочых, сялян, інтэлігенцыі. Яны ствараюцца рэакцыйным урадам і на карысць не народа, а самога ж урада.

Я не належу і не належу ні да адной з груповак. І не хачу. Бо я педагог. І мая пачэсная задача — вучыць падрастаючае пакаленне Беларусі грамаце, свой вопыт, веды шчодра перадаваць маладым беларусам і беларускам.

Часам думаю, што БНФ ужо горш, чым працуе сённяшні парламент, працаваць проста не змог бы. Бо далей наогул няма шляху.

Нам трэба вучыцца разам зноў, як у сівую даўніну, спяваць народныя песні. Бо менавіта праз песню найбольш праяўляецца душа чалавека. Песня здольная ачысціць чалавека ад розных паскудных і нячэсных спраў...

Я свой лёс беларуса хачу бачыць неадлучным ад лёсу сваёй радзімы, свайго народа, сваіх землякоў. Нарадзіўся я ў маляўнічай вёсачцы Андронава, што ў кобрынскім Палессі. Менавіта Палессе, яго прырода і людзі мяне выхавалі, акрэслілі дарогу ў прафесію і самастойнае жыццё. Свайго сына Максімку я назваў у гонар Максіма Багдановіча — майго любімага паэта...

Мне вельмі хочацца, каб беларусы вярнуліся да сваёй мовы, да сваёй культуры. Чаму нашы продкі маглі на ёй размаўляць, а мы адвярнуліся?

Як прыемна мне бывае ў школе, калі з настаўнікам фізікі ці матэматыкі размаўляеш па-беларуску і ў адказ чуеш беларускія словы.

Ці выжывем, беларусы? Лідэры Беларусі лічаць лішнім адказваць на гэтае, маўляў, нямоднае пытанне. Упэўнены: выжывем. Зоймем сваё дастойнае месца ў Еўропе. Але нам трэба не проста выжыць, нам трэба застацца людзьмі, захаваць у сабе духоўнасць. Бо без роднай культуры, без мовы, без спадчыны свайго народа чалавек памірае, калі не фізічна, то духоўнай смерцю абавязкова... Падумаем пра гэта.

**Кастусь КАРНЯЛЮК,**
**настаўнік СШ N 73 г. Мінска.**

# МОВЫ АДНОЛЬКАВАЙ ДОЛІ

На працягу майго дзесяцігадовага знаёмства з беларушчынай мне часта даводзілася параўноўваць становішча беларускай мовы з эсперанта: як першая, так і другая трымаюцца на адным толькі энтузіязме, не маюць дзяржаўнай падтрымкі. Падтрымкі нябачна нават пасля абвяшчэння незалежнасці дый дзяржаўнага статуса мовы. Шмат якія выданні выходзяць на беларускай мове тыражамі калі не бібліяфільскімі, дык эсперанцкімі. Іх вокладкі можна пабачыць толькі ў рубрыцы "Выйшла з друку", але не на паліцах кнігарняў, дзе пануе другая родная, імперска-інтэрнацыянальная мова.

Крыўдна, калі браты па лёсе пакліваюць з эсперанта: "Для эсперантыстаў усе мовы чужыя, толькі міжнародная — родная". Ларыса Геніюш у вершы, які працытаваў спадар Чыгрын і ў "Нашым слове", і ў "ЛіМе", урэшце і ў "Голасе Радзімы", называе эсперанта нават дзікім. Паэтку можна зразумець: гэта не родная, нават не чужая мова, не свойская, не хатняя хову, але гэта гучыць як здзек з безабароннай сіраты, якая не мае грознага гаспадара-заступніка... Можа некаму здаецца, што эсперанта пагражае нацыянальным мовам, прыкладна як беларуская мова ўяўляе, стварае пагрозу для нейкай другой, якая абавязкова хоча быць першай не толькі "дэ факта", але і "дэ юрэ". На самай справе яна нікому не пагражае, бо гэта мова нічыя, нейтральная, нават не агрэсіўная, бо няма дзяржавы, якая была б зацікаўлена з яе дапамогай асіміляваць нейкі народ, аваладаць свядомасцю іншага этнасу. Якраз наадварот: эсперанта абараняе нацыянальныя мовы малых этнасаў, аб'екты дый ахвяры моўнага імперыялізму, бо стварае патэнцыяльную перашкоду моўнай экспансіі. Будучы нейтральным сродкам знешніх зносін, яна ставіць носьбітаў розных — вялікіх і малых моў — у аднолькавае, роўнае становішча, на адзіны ўзровень, яна стварае паміж імі нейкую нейтральную зону, захоўвае моўную раўнавагу. Эсперанта імкнецца адрозніць, раздзяліць сферы ўжывання розных моў, бо эсперанта з'яўляецца быццам моўнай мяжой, праз якую лёгка пранікаць, не парушаючы яе. Як нейтральная мова, яна забяспечвае роўнасць усіх удзельнікаў камунікацыі, незалежна ад роднай мовы, ніколі не ставіць у ніжэйшае, залежнае становішча — усе партнёры карыстаюцца не сваім уласным, але і не пазычаным сродкам зносін. Якраз для малых моў эсперанта з'яўляецца свайго роду кансервантам і гарантам. Эсперанта можа пагражаць толькі "вялікім" мовам, абмяжоўваючы іх апетыт да гегемоніі, але нават у тым выпадку, калі эсперанта запануе ў належнай ёй сферы, для ўсіх моў застануцца дастатковыя і розныя па маштабах экалагічныя нішы.

Эсперанта ўзнікла ў адзін час з беларускім адраджэннем — на беларускай этнічнай тэрыторыі, на сумежжы культур і этнасаў, у самым цэнтры Еўропы, у нейкай аморфнай прасторы. Не дзіва, што гэта адзіны з тысячы эмбрыёнаў "штучных" моў (беларускую таксама нехта назваў штучнай), які на працягу больш стагоддзя даказаў сваю жыццяздольнасць, хаця вырас сіратой, не кажучы пра іншыя здольнасці. Дзіўным супадзеннем гэтая самая аморфная прастора, гэты самы рэгіён Белай вежы і Палесся, у старадаўнюю эпоху на мяжы балцкага арэала даў пачатак магутнаму славянскаму моўнаму дрэву, хаця ад балтаў засталіся адно старыя пні і прыгожа квітнеючая шыпшына на гэтым месцы.

**Валдас БАНАЙЦІС.**

Новая Вільня.

# САКАВІТЫЯ ЛАСУНКІ-СЛОВЫ

Хачу выказаць некаторыя свае думкі, хаця, адчуваю, гэта будзе няпроста, бо за гады жыцця па-за межамі Бацькаўшчыны язык мой адзеравянеў і згубіў здольнасць вольнага паведамлення, але вось сяджу, корпаюся ў памяці, выцягваючы адтуль, як дзяцел з-пад кары сакавітыя ласункі, — словы.

Нарэшце спрэчак вакол беларускай мовы хачу выказаць некаторыя свае разважанні. На мой погляд, не трэба фарсіраваць сходу гэтую пароўкастую раку, стольні дроў можна наламаць, гэта справа не аднаго года. Няхай будзе ўсё паступова. Неразумна цёснуць на свой народ дэкрэтамі і іншымі кабінетнымі рычагамі, толькі настройваць супраць сябе. Тут важна быць тонкім псіхолагам. Вось у Татарстане таксама спачатку пагналі, а пасля апамяталіся: што ж мы робім, многія татары (хрышчоныя) зусім не варожа ставяцца да рускай мовы, а насупраць, згодны вывучаць яе, лічаць сваёй, не скажу, што роднай, але і не забараняюць дзецям гаварыць па-руску.

Днём, у гадзіны казанскага радыё, праводзіцца перадача пад рубрыкай: "Учимся говорить по-татарски". Праўда, мне здаецца, ад гэтага толку, як з казла малака, бо расіяне — народ упарты, ён нічога і чуць не хоча пра другую, тым больш татарскую мову. Дык што ж нас цяпер за гэта лупіць ці выганяць, як надрываюцца нейкія крыкуны? Спакойна, грамадзяне, так можна і да канфліктаў дакаціцца. А на які чорт усё гэта патрэбна? Трэба працаваць і дружыць, пасеяць зло вельмі лёгка, жыць у згодзе — цэлая навука. Не дай Бог, яшчэ нам усім дакаціцца да ліліпуцкіх праблем, з якога канца разбіваць курынае яйка!

У заключэнне хацеў бы пажадаць вам здароўя і поспехаў у вашых добрых справах.

Застаюся назаўсёды шчыры пляшук з Парэчча, што пад Бабруйскам.

**Анатоль БЕНЕДЗІКТОВІЧ.**

Татарстан.

## ДАПАМАЖЫЦЕ ЗНАЙСЦІ ЧАЛАВЕКА



# МОЖА, ХТО ПАМЯТАЕ ПРА ГЭТА?



**Усё часцей у рукі журналістаў трапляюць дакументы, фотаматэрыялы, што захоўваліся перш у архівах КДБ, як асабліва сакрэтныя. Часцей за ўсё яны тычацца "ворагаў народа", рэпрэсіраваных у трыццатыя-саракавыя гады. Вось і гэтыя здымкі нам перадалі супрацоўнікі Міністэрства бяспекі Чувашыі. Стос фатаграфій захоўваўся асобна ад усіх дакументаў. Сярод іх аказаліся і тры здымкі, што належалі, відавочна, некаму з Беларусі. Але каму канкрэтна — цяпер вызначыць цяжка, таму што ні ў адной са спраў упамінання пра іх няма. Магчыма, яны належалі розным людзям.**

**Можа ключ да разгадкі дасць надпіс на партрэце маладой жанчыны: "Дорогому товарищу на память отъ Юзефы Михайловны Киркилпо. 25/XII. 16 г. Минскъ". Апошнія тры літары прозвішча не вельмі разборлівыя, яго можна прачытаць і як Кіркілна. Хто такая Юзэфа Міхайлаўна, якому таварышу падарыла яна свой партрэт у 1916 годзе? Магчыма, ён быў сярод удзельнікаў I Усебеларускага з'езда селькораў газеты "Беларуская вёска", адлюстраваных на іншым здымку (21—24 сакавіка 1926 года), ці сярод урачоў, чый вучэбны збор праходзіў у Мінску ў жніўні таго ж года. На апошнім здымку стаіць штамп фатаграфіі, што знаходзілася на вуліцы Савецкай, у доме 73 (або 78).**

**Вось і ўсе мізэрныя звесткі, якія мы маем. Спадзяёмся, што ваша газета не пашкадуе месца для гэтых здымкаў, а яе чытачы дапамогуць нам у пошуках. Магчыма за ўсім гэтым стаіць нечый лёс (ці лёсы). Пра якую драму могуць расказаць гэтыя фатаграфіі?**

**Уладзімір ЖЭБІТ,**
**супрацоўнік газеты "Советская Чувашия".**

Чэбаксары.




## НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ДОКТАР АЛЯКСАНДР ГАЛЫНСКІ

Ёсць у нас такі летапіс поля калгаса "Запаветы Ільіча". Дык вось у ім пазначаны сабраныя за многія гады імёны дзекабрыстаў, рэвалюцыйных народнікаў, сяброў "Пецярбургскага Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа", герояў трох рускіх рэвалюцый. Але адзін з важнейшых перыядаў развіцця рэвалюцыйнага руху Расіі — 40—60-я гады XIX стагоддзя — не меў ніводнага імені дэмакратычнага руху. Самыя ўпартыя шматгадовыя пошукі не прыносілі поспеху. Толькі аднойчы я знайшоў у гісторыка-літаратурным выданні імя "польскага эмігранта", Аляксандра Вікенцьевіча Галынскага. Праўда, знаходка тады на мяне ўражання не зрабіла. Па-першае, Галынскія, шматлікі панскі род, нядобрай славай карыстаюцца ў жыхароў шэрагу раёнаў усходу Магілёўшчыны. Па-другое, яшчэ невядома, да якой польскай эміграцыі яны адносяцца: да рэвалюцыйнага крыла герояў групы легендарных рэвалюцыянераў С.Ворцэля, Дамброўскага і В.Урублеўскага ці да рэакцыйнага крыла "белай эміграцыі". Але звычка абавязкова запісваць імёны ўсіх знойдзеных землякоў стала законам. Імя Аляксандра Галынскага давялося ўпісаць у асобны сшытак.

Я ведаў, што былі Галынскія прыгнятальнікі, якія не зрабілі нічога добрага для беларускага народа і нашай культуры. У вядомай кнізе ваеннага гісторыка Жыліна "Контрнаступленне Кутузава" я чытаў, што ў 1812 годзе фельдмаршал М.Кутузаў быў занепакоены тым, што ў Крычаве памешчык Галынскі абяцаў Напалеону сфарміраваць дваццацітысячны атрад добраахвотнікаў і выступіць супраць рускіх. Праўда, з гэтага нічога не атрымалася, і дарэмна некаторыя гісторыкі пішуць пра "атрад" як пра факт. Наадварот, быў партызанскі атрад паміж Крычавам і Мсціславам, які змагаўся супраць замежных захопнікаў. Ведаў я, што быў палкоўнік Іван Галынскі, той самы, што купіў у князя Р.Пацёмкіна вялікае Крычаўскае староства за каласальную суму (а шляхецкі гісторык Кіркор у кнізе "Живописная Россия" пісаў у канцы мінулага стагоддзя, што Пацёмкін падарыў "беднаму" Галынскаму гэтыя ўладанні). У Галынскага ў апошняй чвэрці XVIII стагоддзя было дастаткова грошай, здабытых шляхам самай жорсткай эксплуатацыі беларускіх сялян, у тым ліку і ўраджэнцаў нашага краю. Ведаў, што да Кастрычніцкай рэвалюцыі жыў у Крычаве доктар-памешчык Галынскі. Праўда, ён лячыў людзей бясплатна. Але рэзка пратэставаў, што ў яго садзе збіраліся ў 1905 годзе мясцовыя маладыя члены сацыял-дэмакратычнай групы на чале з тэлеграфістам І. Кажэнавым, патрабаваў іх пакарання. Мы бачылі самі такую запіску ў аднаго старога калекцыянера. Вось якіх я ведаў Галынскіх.

Аднойчы мой добры знаёмы і выдатны гісторык беларускай медыцыны і інтэрнацыянальных сувязей беларусаў, В. Грыцкевіч, прыслаў у нашу раённую газету невялікі інфармацыйны матэрыял пра Аляксандра Галынскага. Аказалася, што наш зямляк падарожнічаў па ЗША, жыў там, пабываў у шэрагу краін Лацінскай Амерыкі і спачуваў прыгнечаным народам гэтых краін. Але палітычны твар Галынскага з заметкі не быў ясны. І рэдакцыя адправіла яе ў архіў. Я ўсё ж выпісаў з заметкі некалькі фраз, тым больш, што В. Грыцкевіч у сваім пісьме да мяне ўказваў на неабходнасць працягу пошукаў.

Я змясціў імя А. Галынскага ў спіс землякоў, звесткі аб якіх трэба было шукаць. Але як? Дзе? Матэрыялы пра доктара-падарожніка, мусіць, знаходзяцца ў Польшчы, Англіі, Францыі, ЗША, Італіі. Я вырашыў перачытаць усё, што прысвечана 40—60 гадам XIX стагоддзя і ёсць у бібліятэках Крычава і маёй асабістай бібліятэцы, потым ужо запатрабаваць кнігі з іншых бібліятэк. Вырашыў пачаць з "Былога і дум" А. Герцэна. Там былі невялікія даныя пра А. Галынскага. Перачытаў кнігі, у першую чаргу адзін з тамоў "Литературного наследия" і іншыя работы, прысвечаныя жыццю і творчасці А. Герцэна. І там былі даныя аб нашым земляку. Кароткай інфармацыяй з польскай энцыклапедыі дапамог вядомы беларускі вучоны А. Мальдзіс. Паступова сабраліся матэрыялы, што дазваляюць коратка расказаць пра чалавека, які меў прамое дачыненне да поля калгаса "Запаветы Ільіча", яго гісторыі.

А. Галынскі з'яўляўся прамым спадчыннікам уладальніка маёнтка Задобрасць, жыў на грошы, што атрымліваў з земляў і прыгонных сялян з Задобрасці, Бочкі і іншых вёсак нашага краю, якія належалі роду Галынскіх. Тут ужо ніякіх сумненняў быць не магло. Галынскі знаходзіўся ў даволі блізкіх адносінах з Герцэнам.

Аляксандр Галынскі нарадзіўся ў Крычаве ў 1816 годзе. Дзе і як пражыў ён юнацтва, дзе вучыўся — пакуль невядома. Але калі наш зямляк стаў урачом, то значыць ён меў адпаведную адукацыю. Быў жа не толькі ўрачом, але і таленавітым журналістам, які друкаваўся ў газетах Парыжа, Лондана, у іншых краінах. У канцы 40-х гадоў мінулага стагоддзя ў Парыжы рускі палітычны эмігрант Н. Сазонаў арганізаваў рэвалюцыйны клуб. Сярод яго блізкіх сяброў быў Аляксандр Галынскі. У клуб уваходзілі палітычныя эмігранты многіх краін і французскія рэвалюцыйныя і прагрэсіўныя дзеячы, таму можна меркаваць, што наш зямляк быў з імі добра знаёмы. Цікавая назва клуба: "Брацтва народаў". Клуб адразу ж узяў такі напрамак у сваёй дзейнасці, што буржуазна-рэакцыйны ўрад Францыі неўзабаве загадаў яго закрыць. Галынскага і яго некаторых сяброў выслалі з Парыжа.

Ён пабываў у Швейцарыі. Але надоўга затрымаўся ў Лондане. Там зноў сустрэўся з А. Герцэнам. Іх яшчэ ў Парыжы ў 1849 годзе пазнаёміў усё той жа Н. Сазонаў. Аляксандр Герцэн, аўтарытэт якога сярод рэвалюцыянераў Еўропы быў вельмі вялікі, з Галынскім сувязь падтрымліваў многа гадоў.

Чым жа займаўся наш зямляк у Лондане, які з'яўляўся цэнтрам рэвалюцыйнай польскай эміграцыі? Там жылі яе лепшыя прадстаўнікі, у тым ліку С. Ворцэль і іншыя блізкія сябры Галынскага. Вось характарыстыка Аляксандра Вікенцьевіча ў адным з аўтарытэтнейшых нашых гісторыка-літаратурных выданняў Акадэміі навук СССР: "Аляксандр Вікенцьевіч Галынскі (1816) — польскі эмігрант, літаратар". На яго сродкі была створана друкарня польскага "Дэмакратычнага таварыства" ў Лондане і выдавалася газета "Польский демократ". З Герцэнам Галынскі пазнаёміўся ў 1849 годзе ў Парыжы праз Сазонава; у тым жа годзе высланы з Францыі".

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# БЕЛАРУСЫ АРГЕНЦІНЫ

## ГІСТОРЫКА-ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ ПАРТРЭТ НАШАГА СУАЙЧЫННІКА З БЕРАГОЎ РЫО-ДЭ-ЛА-ПЛАТЫ

## *УСТУП.* КАБ НЕ ПІСАЦЬ НУЛЬ

Леташняй восенню свет адзначыў 500-годдзе адкрыцця Амерыкі і нараджэння эпохі Вялікіх геаграфічных адкрыццяў. Тры каравелы Хрыстафора Калумба, бытыя скарлупіны — палавінкі валоскага арэха ў бязмежнасці акіяна, пацягнулі за сабой магутныя зрухі насельнікаў Старога Свету ў напрамку да Новага, названыя "эміграцыяй".

Міне чатыры вякі з той восені Калумбава трыумфу 1492-га, як амаль адначасова рушаць і беларусы ў першую міжкантынентальную вандроўку-міграцыю. Так што недзе сённяшнім часам мы маем усе законныя падставы адзначыць стагоддзе з пачатку заснавання беларускага "далёкага" замежжа. Ва ўсякім разе аргенцінскай яго сям'і дык пэўна.

Беларуская іміграцыя краіны срэбра як нацыянальная супольнасць ёсць частка дыяспары Захаду. І адрозніваецца яна ад беларускіх абшчын у іншых дзяржавах настолькі, наколькі непадобна сама Аргенціна да іншых краін іхняга пражывання. А падабенства будзе ў тым, што беларускае замежжа — гэта зрэз па жывому са скалечанага і арытмічнага поступу беларускай нацыі, з яе лёсу, на якім лепей, чым на гліне ў чуйных руках ганчара, адкладваюцца і выразныя, і нябачныя воку вечныя лініі долі Бацькаўшчыны з усімі іхнімі трагічнымі, гераічнымі, крытычнымі вузламі. І зрэз сам па сабе не выглядае цалкавітым, а папярэшчаны на асобныя палітычныя, рэлігійныя і іншыя палоскі, кожная з якіх валодае патэнцыяльнай здольнасцю да новага нутранога дзялення. Фатум беларускай натуры — дух раз'яднання... Дзеля таго, каб ён, шашаль-грызун, не згінуў, рабілі высілкі бізунамі, шыбеніцамі, кляймом "вета" на само слова "беларус" усе рэжымы, панаваўшыя на Бацькаўшчыне. Нават тым жа беларусам у Аргенціне катэгарычна адмаўлялі ў прыналежнасці да свайго этнічнага роду-племені і царскае самадзяржаўе, і правячыя колы ІІ Рэчы Паспалітай, і савецкая міграцыйная палітыка, і чыноўніцтва часоў перабудовы.

Незадоўга перад распадам СССР я бачыў статыстычную табліцу рассялення савецкіх грамадзян па свеце, зробленую маскоўскімі спецыялістамі. І вачам не паверыў: у графе "Беларусы Аргенціны" стаяў тлусты "нуль"... А да якой тады нацыянальнасці належаць яны, выхадцы з зямлі беларускай, што жывуць пад зоркамі Паўднёвага Крыжа? Адкуль тады вядуць свой радавод? Хоць круць-верць, хоць верць-круць, відаць, сапраўды, фатум,.. бо як ні парадаксальна, але і сёння ў незалежнай, дэмакратычнай дзяржаве, у лоне нацыянальнага адраджэння не-не ды і выяўляецца аналагічны падыход. Зноў малюецца той жа "нуль". Увогуле, бачна зразумелая логіка, калі такое стаўленне праяўляецца нейкай палітычнай сілай, — гэта яе права; аднак жа яно павінна грунтавацца на нейкіх хоць маламальскі аб'ектыўных гістарычных аргументах. Адным словам, дух раз'яднання і ў гэтай матэрыі кіруе нас каго ў боб, каго ў гарох. І няма страху, калі "ходзяць" туды людзі недасведчаныя і далёкія ад гісторыі. Ды вялікай памылкай будзе, мяркую, калі спецыялісты, паслядоўнікі Герадота, пачнуць вырэзваць і сёння з гісторыі Бацькаўшчыны "аргенцінскія" старонкі беларускай іміграцыі. І зусім непапраўна, калі Рэспубліка Беларусь, выпрацоўваючы дзяржаўную палітыку адносін з беларусамі свету, ізноў возьмецца пярэсціць эміграцкую ніву палітычным плугам, праводзячы чарговыя межы падзелу. Пара (і ўжо з пары выйшла) скарыстаць ці не адзіны шанц, дадзены нам тым жа нешчаслівым лёсам, каб пакінуць без спажывы, знайсці формулу згоды і адужаць нарэшце фатальны дух раз'яднання, каб сумесна з замежнымі суродзічамі падняць з нетраў забыцця гвалтоўна адабраную самабытнейшую культуру беларускага народа, яго гістарычную памяць, растаптаную годнасць, дзяржаўнасць.

Канешне, адсутнасць праўдзівай інфармацыі аб нашых суайчынніках з Аргенціны мела пэўнае негатыўнае адценне ў светаразуменні сучаснай беларускай грамадскасці. У савецкі перыяд выйшлі некалькі кніжак, напісаных рэпатрыянтамі з Аргенціны, але з тых ідэйных пазіцый, якія ад іх тады вымагаліся. Адна навуковая ж праца на гэтую тэму належыць пяру вучонага А.Рудэнкі. Вядома, зробленая ў 1975 годзе, яна не пазбегла і не магла пазбегнуць запалітызаванасці, інакш бы і свет не ўбачыла. Тым не менш гэта было адзінкавае гістарычнае даследаванне ў СССР, якое вызеліла беларусаў Аргенціны як этнас.

Але калі на тое пайшло, сёння інфармацыйны голад — рэч даволі адносная. Бо, як гавораць беларусы з Аргенціны, іхнія тамтэйшыя таварыствы завалены просьбамі былых грамадзян СССР дапамагчы пераехаць, прыняць на жыхарства. Пасольства Аргенціны ў Маскве знаходзіцца ў асадзе ад таго моманту, як стала вядома, што аргенцінскі ўрад выказаў намер даць прытулак пры пэўных умовах эмігрантам з Усходняй Еўропы. Летась адбылася ў мяне размова з мінчанінам, які гадоў дваццаць таму рэпатрыіраваў з Уругвая. "Я зайздрошчу тым, хто там застаўся", — сказаў ён мне. Ад 1986 года стаяць у маіх вушах словы, пачутыя ў Буэнас-Айрэсе ад земляка з Драгічына: "Барані цябе Бог, дзеткі, радзіму кідаць..." І гэты асацыятыўны рад, у якім колькі людзей, столькі і супрацьлеглых меркаванняў, можна прадаўжаць да бясконцасці.

Так ці інакш, але, наважыўшыся намаляваць чытачу гісторыка-публіцыстычны партрэт-апісанне беларускай іміграцыі ў Аргенціне, я цешуся надзеяй даць хоць бы частковы адказ на вышэйпазначаныя пытанні. Таму дзеля большай аб'ектыўнасці абапіраўся на аргенцінскія крыніцы інфармацыі, архіўныя матэрыялы, лісты паўднёваамерыканскіх беларусаў, асабістыя высновы ад сустрэч з імі як на Бацькаўшчыне, так і ў Аргенціне. Нейкія дадатковыя фарбы, без якіх гэты партрэт не будзе мець ні фону, ні лучнасці з рэчаіснасцю, вынесены ў "Штрыхі" да партрэта.

...Сённяшняя беларуская іміграцыя ў Аргенціне складвалася пастунова, спакваля намываючыся на яе берагі трыма міграцыйнымі хвалямі, што наплывалі з Белай Русі, пачынаючы з 90-х гадоў XIX стагоддзя і да першай сусветнай вайны, у міжваенны час, пасля другой сусветнай.

## *ЧАСТКА І.* ЭМІГРАНЦКІ ГРОШ КРЫВАВЫМ ПОТАМ ХРЫШЧАНЫ

### 1. БЕДНАСЦЬ ДАЕ НОГІ...

Крыніцы першай эміграцкай хвалі забруілі ў канцы XIX стагоддзя ў заходніх губернях — Гродзенскай і Віленскай, выносячы спярша вяла і нерашуча беларусаў-католікаў разам з палякамі. А па 1905-м завіравалі магутнымі струменямі, падхопліваючы і беларусаў-праваслаўных з усходніх правінцый, асабліва Міншчыны, разам з расійцамі. На такі стан рэчаў, напрыклад, гродзенскі губернатар рэагаваў раздражнёна і з ноткамі здзіўлення: "Увлечение этим движением простирается до такой степени, что они за бесценок распродают имущество на родине и целыми толпами стремятся в Бразилию". І ў Аргенціну, адкуль яшчэ раней даходзілі чуткі аб бясплатным надзяленні зямлёй.

Самай прыдатнай глебай, якую лёгка прабівалі тыя крыніцы, была беларуская вёска. Яна задыхалася пад прэсам аграрнага крызісу. А сялянства складала тады 94 працэнты працаздольнага насельніцтва. Згадваў пра тыя часы Ф. Крэдэнсір з Буэнас-Айрэса так: "Сялянам жылося вельмі цяжка. Трэба было тры дні на тыдзень хадзіць на паншчыну. Зямельныя надзелы выдавалі па 24 дзесяціны на сям'ю, незалежна ад колькасці членаў, а падаткамі выцягвалі ўсе сілы".

Перанаселенасць сяла, якому чым далей, тым болей неставала зямлі, лішак рабочых рук, недаразвітасць рэформаў 1861 года нагняталі сацыяльнае напружанне, якое настойліва шукала выйсця. Расійская імперыя спяшалася хутчэй прырасціць "Северо-Западный край" да сваёй тэрыторыі. Адной рукой яна вытраўляла з літвінаў, што не былі перайначаны на польскі лад, рэшткі нацыянальнай існасці, другой — выштурхоўвала на чужыну.

Агульныя ж варункі для выслабанення энергіі першага міжкантынентальнага руху беларускага земляробчага люду стварыў пераход ад феадальнага да новага капіталістычнага спосабу вытворчасці і ладу, ад замкнутай, што трымала на прывязі прыгоннага права, да адносна свабоднай, пераважна пасля сталыпінскіх рэформаў, цыркуляцыі насельніцтва. Расія ўваходзіла на сусветны рынак працы, прапануючы ў якасці тавару якраз той лішак сельскагаспадарчых рук.

І кінуўся братка-беларус на зыходзе мінулага веку капаць вугаль і жалезную руду ў Латарынгіі і Саарскім басейне, разбіраць тушы на бойнях Чыкага, грузіць параходы ў Сіднеі. І ягонымі, сярод іншых, мазалямі, нацёртымі ручкамі плуга і кассём, адбудоўваліся тады ЗША, Канада, Бразілія, Куба, Аўстралія, Францыя, Бельгія, Латвія, Эстонія. На гэтым неабсяжным геаграфічным гасцінцы нашых эмігрантаў "Беларусь — свет цэлы", у самым канцы яго, знаходзілася і невядомая Аргенціна, што значыць срэбраная (ад лацінскага "аргентум" — срэбра), Рыо-дэ-Ла-Плата — срэбраная рака (ад іспанскага "плата" — срэбра).

Пошук лепшага, чым дома, заробку праз продаж свайго мускульнага патэнцыялу за мяжу — найважнейшы імператыў выездаў, адна з форм накаплення капіталу, які беларускі мігрант-працаўнік укладваў, вяртаючыся, у пакупку зямлі. "Во время трех месяцев уборки хлебов ... работа на полях так интенсивна, что за все это время рабочие спят не более как 3—4 часа в сутки при поистине каторжном труде, но зато день и вознаграждается 6—8 песо (5—7 рублей), цифра неслыханная в Европе. Поработав несколько месяцев, как негры, иностранные рабочие с туго набитыми кошельками возвращаются до следующего хлеба", — адзначаў у данясенні Міністэрству замежных спраў Расіі супрацоўнік імператарскай місіі ў Буэнас-Айрэсе Е. Штэйн.

Беднасць дае ногі, а багацце — рогі, гаварылі тады на вёсцы; пры тым, што на пачатку веку адзін долар каштаваў 25 рублёў. З той пары вандроўкі ў замежныя заробкі назвалі "доларавай" эміграцыяй.

Адхлын эміграцыйнай хвалі ад бацькоўскіх берагоў насіў характар адыходніцтва. Ён быў у асноўным часовым, сезонным, з праявамі чаўнаковых пераездаў. Беларус старога пакалення, відаць, генетычна прывязаны першароднай пупавінай да матчынага гнязда, разарваць якую ён не адважваецца, калі абставіны даюць хоць малюсенькі выбар. І цяпер да скону прывязаўся да роднага надворка, дзе аж горача ад радыяцыі, нават пагроза смерці не здолела прымусіць яго перабрацца за кіламетраў колькі ад свае хаты.

Стыхія адыходніцтва і перасялення ў Аргенціну і Бразілію застала знянацку расійскі дзяржаўны істэблішмент. Ён выглядаў непадрыхтаваным. Міжнародныя механічныя рухі грамадзян Расіі не рэгуляваліся спецыяльнымі заканадаўчымі актамі. А сам выезд без страты падданства дазваляўся адно на пяць гадоў. Ды ў Расіі заўжды "жестокость законов усмирялась их неисполнением".

Праблема эміграцыі муляла не адно гродзенскаму губернатару. Адзін з яго калегаў рэкамендаваў затрымліваць нелегальных агентаў-вярбоўшчыкаў на падставе крымінальнага кодэксу, ускладняць выдачу метрык. "Агітатараў" бывала што і арыштоўвалі, каралі, даючы ад аднаго да паўтара гадоў арыштанцкіх рот.

Па некаторых звестках, за выезд (не ведаю, што мелася тут на ўвазе) дарослым трэба было плаціць 75, дзецям 50 рублёў. Бядняк мусіў шмат што прадаць, каб нарэшце выехаць.

Чыноўніцтва грэла рукі на хабары, а не — дык кідала выязныя дакументы ў заганны круг бюракратычнай цяганіны. Толькі ў 1905 годзе Міністэрства гандлю і прамысловасці высунула прапанову аб распрацоўцы іміграцыйнага заканадаўства. Да 1913 года над ім працаваў спецыяльны камітэт. Планавалася накіроўваць у амерыканскія краіны камісараў па справах эмігрантаў.

Ідэалагічныя, папулісцка-патрыятычныя пастулаты накшталт "коренное население отечество не покидает" часам адступалі перад празаічнымі інтарэсамі, выгодамі і расійскіх дыпламатаў, аб чым можна прачытаць паміж радкоў гэтай сакрэтнай тэлеграмы, адбітай з Буэнас-Айрэса ў Маскву ў жніўні 1911 года: "Ожидается исключительный урожай /недостаток рук вследствие конфликта с Италией, повышенная плата/, начало жатвы в ноябре". Эміграцыя карміла ўсіх. Яна прыносіла Расіі золата.

Статыстыка перасячэння мяжы вялася ў Расіі з 1828 года. Лішне будзе паўтарацца, што яна не рэгістравала нацыянальнасць беларусаў. Адзначалася толькі веравызнанне. І ў Аргенціне заканадаўства не прызнавала нацыянальнай інакшую прыналежнасць, акрамя той, якая ўтварала дзяржаўнасць. Шкада, але пры такім становішчы немагчыма вызначыць ні дакладную колькасць імігрантаў — беларусаў першага прыходу, ні часу высадкі заснавальнікаў іміграцыі на паўднёвым конусе Амерыкі. Для прыкладу: аргенцінскія гісторыкі С. Флорыя і С. Гарсія падлічылі, што ў 1890 годзе іміграцыйны прыток у краіну з Еўропы склаў 64 тысячы чалавек штогод, у першым дзесяцігоддзі XX стагоддзя — 112 тысяч, дзе "амаль палова мігрантаў — італьянцы,.. трэцяя частка — іспанцы, астатняя колькасць размяркоўваецца сярод рускіх, палякаў, французаў і немцаў".

Некаторыя расійскія даследчыкі адносяць пачатак "заваёвы" пампасаў беларусамі, украінцамі і яўрэямі на 1857 год, што даволі спрэчна, а іх кантынгент — 100 тысяч. Вельмі праўдападобна, што першыя беларусы больш ці менш хутка прыязджаюць у краіну гаўча ў 90-х гадах мінулага стагоддзя. І да пачатку вайны тут пабывала (па самых прыблізных прыкідках) трычатыры дзесяткі тысяч нашых суродзічаў.

Эміграцыйная хваля вокамгненна абрастае своеасаблівай інфраструктурай, індустрыяй сервісу, дзе поруч з параходствамі, канторамі і агенцтвамі па вярбоўцы, якія атрымліваюць дазвол ад дзяржавы, узнікаюць нелегальныя структуры, "ценявы" бізнес.

Паўстаюць і таварыствы апекі над эмігрантамі. Для прыкладу, Варшаўскае па вуліцы Эрванскай, 2, якое ў 1912 годзе выдае ў *Вільні* брашуру на беларускай мове (захоўваецца стыль і правапіс арыгінала) "Рады для эмігрантаў, каторые едуць у Амэрыку, а такжэ розмовы Беларуско-англіцкие паводле Язэпа Акаловіча". Хто лепей, чым сучаснік, перадасць трапяткі пульс і ўсю палітру тагачаснасці! "Кожны грош, які там (за морам. — **К.Ш.**) аткладаецца, купляецца толькі велікай працай, хрэсціцца крывавым потам", "Эмігранцкіх агентаў можна раздзяліць на двое: яўных (тутэйшых і заграничных) і тайных... Тайныя, "наганятыя", бываюць усялякія людзі, пачаўшы ад звычайных мястэчковых жыдкоў, а скончыўшы на асобах, па каторых ніхто б гэтага не спадзяваўся"... "Агенту тое ня рупіць, якая доля спаткае эмігранта, а ўвесь клопат яго ў тым, каб намечэнага чэлавека спакусіць да выезду на караблёх таго таварыства, с каторым ён у згаворы і каторае яму плаціць ад "галавы", "Ашукваюць гэты агенты эмігрантаў глаўным чынам беручы вялікія грошы за праезд, або марочучы іх небывалымі абацянкамі".

У Вільні для жыхароў беларускіх і літоўскіх губерняў распачало дзейнасць бюро інфармацыі. Ды і без яго па вёсках ужо даўно хадзілі расказы "бывальцаў", "заморскія" пісьмы, нібыта прысланыя з-за акіяна. Весткі пра аргенцінскае Эльдарада неслі і матросы з Беларусі, якіх ахвотна бралі служыць на царскі флот. А таксама яўрэі. Яны раней, чым беларусы, асталяваліся ў тых краях. Перасяленнем яўрэяў у Аргенціну актыўна і многа займалася таварыства Jewish Colonisation Association, другі яго назоў — фонд барона Гірша. Ды расійскае першынство ў адкрыцці краіны гаўча з мэтай перасялення належыць, відаць, паволжскім немцам-менанітам, чыя сучасная, напалову закрытая абшчына налічвае 300 тысяч чалавек.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

**(Працяг будзе).**

## ТЭАТР МАНЕКЕНАЎ



Музеі манекенаў існуюць у розных краінах свету, і часта іх наведвальнікі, абменьваючыся ўражаннямі, гавораць адзін аднаму: "Ну паглядзі, зусім жывыя!" Можа менавіта жаданне прымусіць "рухацца" мёртвыя фігуры і падштурхнула Юрыя Пярмінава стварыць тэатр манекенаў. Дванаццаць год спатрэбілася майстру на тое, каб зрабіць лялькі, пашыць для іх адзенне, запісаць фанаграму. І вось спектакль "Курган" па матывах твора Янкі Купалы пачаў жыць на сцэне Мінскага палаца піянераў.

Здаецца, зроблена выдатная справа, яшчэ адзін крок на цяжкім шляху нацыянальнага адраджэння, але ж, зусім нядаўна адкрыўшыся, тэатр ужо закрываецца. Прычына? Адсутнасць памяшкання. Шмат устаноў, Палацаў культуры і музеяў абышоў Юрый Пярмінаў. У адным месцы адмаўлялі адразу, у другім адразу ж згаджаліся, але патрабавалі арэндную плату паўтары тысячы рублёў за дзень. Карацей, дзіўны тэатр сёння нікому не патрэбны. Нікому, акрамя школьнікаў, якія з задавальненнем цэлы месяц хадзілі на спектаклі, аматараў тэатра, ды і проста цікаўных людзей, якім хочацца ведаць пра любую новую з'яву ў культурным жыцці рэспублікі. Шкада, што ў лік гэтых людзей не ўваходзяць тыя, ад каго залежыць лёс маленькая тэатра Юрыя Пярмінава.

**В. АНАТОЛЬЕВА.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

НА ЗДЫМКУ: персанажы паэмы Я. Купалы "Курган", удзельнікі тэатра манекенаў.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

* * *

У кахання прылівы, адлівы,
Узнясенні і рэзкія зрывы,
Асалода бязмежжа —
і краты,
Паўната уладання —
і страты.
Спусташэнні яшчэ
і згаранні,
Ашуканні і проста
шуканні...
Восьякая радня
у кахання...

**Зінаіда ДУДЗЮК**

* * *

Малачаем і чыстацелам
зводзіла рабацінкі,
а яны зноў і зноў абсыпалі
твар
ад вясновага сонца,
ад нараджэння дзяцей,
і зніклі самі толькі
тады,
калі гора прыпудрыла твар
стомаю і адчаем.
Дый нашто яны цяпер, тыя
рабацінкі,
калі памёр той,
хто кахаў іх бясконца!

**Марк СМАГАРОВІЧ**

* * *

Я не пясняр народны
І не герой зусім.
Бяднее край мой родны,
І я бяднею з ім.
Мой карабель марудна
Праплыў яшчэ шэсць міль.
І паміраць абсурдна,
І жыць няма больш сіл.
Харчуюся ў сталоўцы.
Адзін. Сям'і няма.
Жыву ў старой "хрушчоўцы" —
Без крат, а як турма...
Патрэбна ўсюды мера,
Я перагнуў, бадай.
Такая атмасфера —
Прабач, мой родны край!

* * *

Ад роднага дома
У бездань начы
Вялі нас свядома
Ідэй лаўкачы.
Быў голад, быў холад,
І гора было.
Ўсе беглі у горад,
Пусцела сяло...
Адна ёсць ідэя,
Ідэя з ідэй:
Агонь Праметэя
Панесці далей.

**Паўлюк ПРАНУЗА**

* * *

Выжыць! Чуем на сходах,
у крамах.
Выжыць! Чуем у школах,
у храмах.

Выжыць! Шэпча ручай
абмялелы.
Выжыць! Сад хоча квецені
белай.

Выжыць! Колас на полі
бядуе.
Выжыць! Сумна зязюля кукуе.

Выжыць! Плач у
чарнобыльскай зоне.
Ветка, Хойнікі ў чорнай
кароне.

У Бабруйску, Нароўлі,
Нясвіжы
Чуем страшнае, грознае:
"Выжыць!"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

# З НАДЗЕЯЙ І ТРЫВОГАЙ

Хочацца далучыцца да разважлівага запыту дакладчыка да інтэлігентаў, асабліва тых 42 раёнаў, дзе няма суполак ТБМ: "Няўжо вы не бачыце, як ідзе адраджэнне роднага слова, культуры, няўжо не чулі пра ТБМ, няўжо забыліся пра асабістыя абавязкі інтэлігента?" Цяжка паверыць, але складваецца ўражанне, што значная частка нашай інтэлігенцыі страціла пачуццё прафесійнага сораму перад самімі сабой, што мы не ўспамінаем аб асабістым становішчы, месцы ў калектыве, грамадстве. Калі гэта не так, дык як зразумець інтэлігента з вышэйшай і найвышэйшай адукацыяй, для якога дзяржаўная мова недасягальная? У беларускамоўным асяроддзі такі інтэлігент адчувае сябе дыскамфортна.

У рабоце з'езда браў удзел святар беларускай уніі а. Ян Матусевіч. Ён выказаў заклапочанасць тым, што навучальны працэс у каталіцкіх і праваслаўных семінарыях вядзецца не на дзяржаўнай мове. Зазначыў, што ў Італіі, напрыклад, у семінарыях рабочай мовай з'яўляецца італьянская, а не польская. На жаль, уніяты на сёння не маюць ніводнага свайго храма, хаця на тэрыторыі Беларусі іх захавалася нямала.

Дзяржаўнае разуменне праблем адраджэння паказаў мэр г.Маладзечна, народны дэпутат Карпенка. Па яго словах, у гэтым горадзе ТБМ стала сапраўды дзяржаўнай структурай. Гарадская рада ТБМ мае памяшканне, тэлефон (чаго не мае сталічная рада ТБМ). Таварыства праз мову збліжае людзей. Заклікаў сяброў ТБМ праводзіць такую палітыку, каб беларусы адчулі сябе беларусамі.

Адметнай рысай работы з'езда з'явіўся актыўны ўдзел вайскоўцаў ад Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь і ад Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Прыемна, што паміж імі не было адкрытых супярэчнасцей. І тыя, і другія зацікаўлена гаварылі аб праблемах распаўсюджання дзеяння законаў аб мовах на Беларускае войска. Прадстаўнік БЗВ падпалкоўнік С.Суднік прадэманстраваў высокі прафесіяналізм у распрацоўцы беларускай вайсковай тэрміналогіі. Улічваючы тое, што Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца састаўной часткай дзяржаўнай сістэмы, з'езд звярнуў увагу Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь на тое, што дзеянне Закона аб мовах распаўсюджваецца ў поўным аб'ёме і на Беларускае войска.

Узнёсла гаварыў аб родным слове, аб неабходнасці выхавання ў настаўнікаў і вучняў беларускасці, беларускай душы настаўнік Г.Піткевіч (г.Стоўбцы). Суполка ТБМ у іх школе прапанавала пачынаць кожны дзень са спеваў "Магутнага Божа", "Пагоні".

Міністр замежных спраў Беларусі П.Краўчанка заклікаў да рамантызму ў адраджэнні мовы, выказаўся супраць самапрыніжэння. Мы таленавітая і гордая нацыя, сказаў міністр. Разам з тым зазначыў, што адраджэнне беларускай нацыі на дзяржаўным узроўні пакуль не атрымалася.

Намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па культуры, гісторыі і захаванню гістарычнай спадчыны народны дэпутат А.Трусаў запатрабаваў, каб усе міністры размаўлялі на службе па-беларуску. Ён асабіста адказы на рускай мове на яго запыты вяртае назад з паметкай — "Парушэнне арт. 3 Закона аб мовах".

Забеспячэнне падручнікамі школьнікаў і студэнтаў, бадай, адна з важнейшых праблем. Старшыня рады ТБМ г.Полацка Т.Гарэлік прапанавала, каб ТБМ узяло на сябе ролю грамадскага кантралёра за выкананнем Закона аб мовах. Школе патрэбны беларускія падручнікі як па зместу, так і па духу, а не перакладныя з расійскіх. У якасці прыкладу зняваги беларускага слова, культуры прыводзіўся адукацыйны фільм аб У.Караткевічу "Быў, ёсць, буду". З 45 хвілін толькі 7 хвілін гучыць беларускае слова. Ці ж гэта не здзек з класіка беларускай літаратуры, натхняльніка адраджэння беларускай нацыі?

Прафесар А.Пяткевіч (Гродна) зазначыў: "Мы робім адну справу, а ўлады — другую. Міністэрства адукацыі гаворыць, што з 1 верасня 1993 года ВНУ пяройдуць на беларускую мову выхавання і выкладання, а фактычна не пяройдуць. За тры гады ва універсітэце пасля шматлікіх курсаў па вывучэнню беларускай мовы толькі адзін рускамоўны выкладчык перайшоў з рускай мовы выкладання на беларускую".

У парадку дня было пытанне аб удасканаленні правапісу беларускай літаратурнай мовы. На жаль, змястоўнага, заклапочанага абмеркавання не адбылося. З'езд не выказаўся за неабходнасць у сціслыя тэрміны на дзяржаўным узроўні вярнуць беларускай мове натуральны, уласцівы яе адметным асаблівасцям правапіс. Некаторыя навукоўцы і моваязнаўцы глядзяць на праблемы правапісу з існуючага штучнага стану беларускай мовы. Натуральнае развіццё беларускай мовы было спынена вядомай пастановай СНК у 1933 годзе. Яе неабходна адмяніць. Адцягванне тэрміну прыняцця і ўводу адзінага правапісу вельмі сур'ёзна замінае адраджэнню і развіццю беларускай мовы. З'езд падтрымаў рэкамендацыі камісіі па ўдасканаленню правапісу і накіраваў іх дзяржаўнай камісіі, якая яшчэ мае быць створана дзеля заканадаўчага ўрэгулявання беларускай арфаграфіі. А час ідзе.

Высокую адказнасць і разуменне гістарычнага моманту з'езд прадэманстраваў, прыняўшы два звароты да Вярхоўнага Савета і ўрада Рэспублікі Беларусь. Адзін скіраваны супраць патаемнага чыноўніцка-апаратнага рэферэндуму па ўвядзенню дзяржаўнага двухмоўя, другі — супраць ваеннага саюзу з Расіяй.

У склад рэспубліканскай рады ТБМ абраны дэлегаты, якія выступалі на з'ездзе з радыкальнымі прапановамі па павышэнню эфектыўнасці дзейнасці ТБМ. Пажадаем ім і ўсяму таварыству прыблізіць час, калі роднае слова загучыць на ўсіх абшарах Беларусі і перш-наперш у яе сталіцы.

**Мікола САВІЦКІ, старшыня Мінскай гарадской рады ТБМ імя Ф.Скарыны, прафесар.**

## ДВУХМОЎЮ І ВАЕННАМУ САЮЗУ З РАСІЯЙ — НЕ!

**У Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь**
**У Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь**

**У апошні час у рэспубліцы робяцца спробы патаемна ад грамадскасці правесці чыноўніцка-апаратны рэферэндум па пытанні ўвядзення ў Беларусі дзяржаўнага двухмоўя. Так, III з'езду Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны стала ведама, што Міністэрства адукацыі рэспублікі накіравала ва ўстановы вышэйшай школы запыты аб увядзенні рускай мовы ў якасці дзяржаўнай у Беларусі.**

**З'езд выказвае рашучы пратэст супраць спробы некаторых службовых асоб органаў дзяржаўнай улады і кіравання, асобных грамадска-палітычных груповак рэспублікі насуперак нацыянальным інтарэсам народа Беларусі ўвесці ў краіне дзяржаўнае двухмоўе. З'езд патрабуе спыніць любыя спробы з боку адказных работнікаў дзяржаўных структур, парушаючы Канстытуцыю і дзейнае заканадаўства, абвастраць штучнае пытанне аб наданні рускай мове дзяржаўнага статуса, інспіраваць акцыі грамадскай падтрымкі гэтай антынароднай ідэі і адклікаць праванацыйныя запытанні ад дзяржаўных органаў кіравання, якія таемна дасылаюцца шэрагу працоўных калектываў рэспублікі.**

**З'езд заклікае Вярхоўны Савет, урад незалежнай Беларусі, усіх грамадзян рэспублікі забяспечыць поўнае і своечасовае выкананне моўна-культурнага заканадаўства краіны. Беларускае адраджэнне — справа гонару і сумлення ўсіх грамадзян, усіх сыноў і дачок нашай Бацькаўшчыны.**

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ І ВЕЧНА ЖЫВЕ БЕЛАРУСКАЯ МОВА!**

**Незалежнасць Беларусі — гэта гарантыя і абавязковая ўмова адраджэння беларускае мовы і нацыянальнае культуры. III з'езд Таварыства беларускай мовы выказвае рашучы пратэст супраць дзеянняў органаў улады Беларусі, скіраваных на абмежаванне і фактычнае знішчэнне яе суверэнітэту. З'езд перасцерагае Вярхоўны Савет і ўрад ад прыняцця рашэнняў, якія парушаюць Дэкларацыю аб суверэнітэце і нішчаць нейтралітэт нашай краіны. З'езд катэгарычна пярэчыць спробам уцягнуць Беларусь у вайскова-палітычны саюз з Расіяй.**
**Досыць быць заложнікамі чужой палітыкі!**
**Не — войнам за чужыя інтарэсы!**
**Так — свабодзе і незалежнасці!**

**III з'езд ТБМ,**

*Мінск, 26 сакавіка 1993 г.*

# ДОКТАР АЛЯКСАНДР ГАЛЫНСКІ

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).

Значыць, Аляксандр Вікенцьевіч належаў да дэмакратычнага крыла польскай рэвалюцыйнай дэмакратыі. Больш таго, на яго грошы выдавалася рэвалюцыйная газета, была створана друкарня. Гэта ўжо вельмі важна для нас. Грошы, якія зараблялі прыгонныя Галынскіх у Крычаве, Задобрасці, Бочках і ў іншых вёсках нашага краю, размешчаных і за ракою Сож (цяпер Краснабудскі сельсавет Крычаўскага раёна), ішлі на барацьбу супраць царызму, за вызваленне і Польшчы, і Расіі ад царскага прыгнёту. Гэта старонка з гісторыі поля над Добрасцю і Сожам і яго працаўнікоў.

Мяркуючы па ўсім, Герцэн заўсёды знаходзіўся ў курсе жыцця Галынскага. У адным пісьме да яго Сазонаў піша: "Скажы Галавіну, што Браніцкага тут няма, а Галынскі тры дні таму назад быў тут".

Пасля ад'езду А. Галынскага ў Амерыку Герцэн таксама не губляў з імі сувязі. Вось яго паведамленне ў адным з пісьмаў: "Галынскі вярнуўся з Амерыкі з цэлай кучай заакіянскіх плётак; праз месяцы два едзе назад. Гэта заманліва: пераезд становіцца ўсё лягчэйшым і лягчэйшым". Калі ўлічыць, што А. Герцэн сябраваў з В. Гюго, Д. Гарыбальдзі, А. Сафі, Г. Гервегам, Л. Піанчыні і іншымі вядомымі рэвалюцыянерамі Францыі, Англіі, Італіі, Германіі, быў добра знаёмы з К. Марксам і Ф. Энгельсам, членам І Інтэрнацыянала беларусам А. Трусавым, то, вельмі магчыма, людзей гэтых ведаў і Галынскі, таму што ўсе яны мелі сувязь з польскай дэмакратычнай эміграцыяй у Лондане.

Што ж убачыў А. Галынскі ў ЗША і Лацінскай Амерыцы? Пабываўшы ў Англіі, Францыі, Швейцарыі, Егіпце, Палесціне, Сірыі, наш зямляк вырашыў пазнаёміцца з жыццём за акіянам. Цікава, што ў Егіпце славуты польскі паэт Ю. Славацкі пасля сустрэчы з Галынскім напісаў верш, прысвечаны яму: "Пісьмо Аляксандру Г., напісанае на нільскай лодцы ў 1836 годзе". Значыць, у 1836 годзе Аляксандр Вікенцьевіч ужо знаходзіўся за мяжой. Праз сем гадоў чытачы пазнаёміліся з яго кнігай успамінаўнарысаў аб Астурыі, шахцёрскай сталіцы Іспаніі. Потым была паездка ў ЗША. Жывучы ў Нью-Йорку, Галынскі аб'ехаў многія штаты Амерыкі, у тым ліку славуты Тэхас. Вядома, як усе ўраджэнцы Расіі, ён не мог мінуць Каліфорнію і яе сталіцу Сан-Францыска, таму што першымі тут стварылі крэпасць рускія падарожнікі. Музей у горадзе Сакрамента стаў месцам захоўвання карты Каліфорніі, створанай Галынскім.

Далей маршруты Аляксандра Вікенцьевіча пралеглі па краінах Лацінскай Амерыкі. Цікава, што Галынскі прапанаваў свой праект канала паміж Атлантычным і Ціхім акіянамі, апярэдзіўшы ідэю Панамскага канала. Ён пісаў, што будучыня належыць "паветраплаванню", якое дазволіць за некалькі гадзін дабрацца з Англіі ў ЗША. Пры гэтым асабліва падкрэсліваў, што авіяцыя дапаможа змагацца супраць сродкаў "ізаляцыі народаў і падтрымліванню іх узаемнай дружбы". Як бачыце, наш зямляк заставаўся прыхільнікам дружбы народаў нават пры абмеркаванні праблем развіцця навукі і тэхнікі.

Вядома ж, біяграфія А. Галынскага патрабуе яшчэ ўважлівага вывучэння. Я звяртаюся да беларусаў, хто жыве ў Англіі, ЗША, Цэнтральнай Амерыцы, Італіі, Іспаніі, Швейцарыі, Расіі, Прыбалтыцы і, вядома, у Польшчы: "Дапамажыце сабраць матэрыялы аб Галынскім, якія змешчаны ў розных кнігах, энцыклапедыях, калі можна, пашукайце ў архівах. А калі ў вас ёсць матэрыялы аб ураджэнцах Мсціслаўскага, Чэрыкаўскага, Клімавіцкага паветаў, дасылайце іх таксама нам, у Крычаўскі краязнаўчы музей. Хачу нагадаць, што ў нашым музеі з 1961 года ўжо сабраны матэрыялы аб беларусах, у асноўным рэвалюцыянерах, якія жылі ў ЗША, Англіі, Італіі, Швейцарыі, Балгарыі, Румыніі, Кітаі, Японіі і іншых краінах. Гэта тэма заўсёды цікавіла нас. Тым больш цікавіць сёння, калі Беларусь набыла самастойнасць, атрымлівае сусветнае прызнанне. А гэта значыць, што мы ўсе разам павінны ўдасканальваць веды пра яе вялікую і вельмі цяжкую, часам страшную гісторыю. Пішыце нам у Крычаў, а калі будзе магчымасць, прысылайце кнігі, экспанаты, свае і іншых землякоў працы. У новым памяшканні (а нам перадалі былы дом Пацёмкіна) у нас будзе вельмі многа месца для экспазіцый, якія раскажуць аб нашай слаўнай гісторыі.

**Міхаіл МЕЛЬНІКАЎ,**
**заслужаны работнік культуры Беларусі.**

## КАРЦІНЫ ПРАДКАЗВАЮЦЬ БУДУЧЫНЮ



**Некалькі тыдняў у Мастацкім музеі Беларусі можна было бачыць мастацтва, сусветны ўзровень якога прызнаны. Я кажу пра нямецкую экспрэсіяністкую графіку пачатку нашага стагоддзя, выставу якой наладзіў інстытут замежных сувязей горада Штутгарта і Нямецкі культурны цэнтр імя Гётэ.**

**Вядома, што экспрэсіянізму ўласцівая перадача ўнутраных, духоўных асноў свету мастака. А праз яго і паказ часу, калі жыве творца. Працы нямецкіх графікаў на выставе — адлюстраванне праз вобразы на палотнах гісторыі Германіі і Еўропы. Творы уражваюць неспакоем і болем людскім. На ўсёй выставе я не ўбачыла ніводнага твару, праз які можна было б дазнацца пра цішыню і гармонію ў душы чалавека. Пакута, мяцеж супраць сябе і лёсу. У лепшым выпадку — хаос, які вядзе да ўваскрэшання толькі праз страшны суд і пакуты зноў (В.Кандзінскі "Вялікае ўваскрэшанне"). Гэта Бог, якому хочацца верыць. Праз яго мастак дае нам магчымасць зразумець трагедыю быцця. Ён жа і дорыць надзею. На твары Ісуса — спагада да бедных людзей, якія больш на сваіму абліччу падобныя да звяроў (К.Шміт-Ротлуор "Хрыстос і Іуда", "Хрыстос праклінае смакоўніцу").**

**Чалавек ідзе ад людзей на вуліцу, бачыць горад, і ён супакойвае. У ім ёсць прыгажосць. І ён здаецца далёкім ад страсцей чалавека (Э.Нольдэ "Гамбург — унутраны порт", "Гамбург-прыстань").**

**Лічыцца, што сапраўднае мастацтва заўсёды прадказвае будучыню. Мне здаецца, што нямецкія экспрэсіяністы пачатку нашага стагоддзя ў сваіх карцінах прадказалі трагічны лёс нямецкага народа і людзей XX стагоддзя наогул.**

**АЛЕНА СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ:** Макс ПЕХШТАЙН. "Два рыбакі з сеткай", 1923 г., гравюра на дрэве; Хойрых КАМЛЕНДОНК. "Інтэр"ер з дзвюма аголенымі", 1918 г., гравюра на дрэве.

# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### САЛАТА З БУЛЬБЫ, ГАРОДНІНЫ І СЕЛЯДЦА

**Вараную бульбу, крутое яйка, памідор і агурок нарэзаць тонкімі паўкружочкамі, філе селядца — лусцікамі, зялёную салату і цыбулю дробна пасячы. Усё змяшаць, дабавіць зялёны гарошак, заправіць маянэзам і пасаліць. Пры падачы на стол пасыпаць дробна парэзаным кропам.**

**На 6 порцый 200 грамаў бульбы, 1 селядзец, 1 яйка, 1 памідор, 1 агурок, 30 грамаў зялёнай салаты, 1/2 цыбуліны, 20 грамаў зялёнай цыбулі, 30 грамаў зялёнага гарошку, 1/2 шклянкі маянэзу, кроп, соль.**

### КЛІНКОВЫ СЫР

**Кіслае незнятае малако ў гліняных збанах паставіць у слабанагрэтую печ ці духоўку на непрацяглы час. Затым дабавіць соль, кмен, добра размяшаць, пакласці ў невялікі палатняны мяшочак (клінок) і падвесіць, паставіўшы знізу посуд для сцёку сыроваткі. Пасля таго, як сыроватка сцячэ, клінок туга завязаць шпагатам, пакласці між дзвюма драўлянымі дошкамі, зверху — груз і вытрымліваць на працягу сутак. Гатовы сыр нарэзаць скрылікамі і падаць на стол.**

**5-10 літраў малака, кмен, соль.**

### ГАРБУЗОВАЯ ГУШЧА

**Гарбуз пачысціць, выняць семечкі, парэзаць на невялікія кубікі, пакласці ў кіпячую ваду, дабавіць цукар, соль і варыць. Гарбуз працерці, дабавіць звараную прасяную ці манную кашу, крухмал, малако, масла, перамяшаць і паставіць у печ ці духоўку на 20-30 мінут.**

**500 грамаў гарбуза, 3 сталовыя лыжкі прасяной ці маннай кашы, 0,5 шклянкі малака, 1 чайная лыжка крухмалу, 2 сталовыя лыжкі масла, 1 сталовая лыжка цукру, соль.**

### БАБКА БУЛЬБЯНАЯ, ФАРШЫРАВАНАЯ ГРЫБАМІ

**Сырую абабраную бульбу нацерці на дробнай тарцы, дабавіць муку, пасаліць. Памытыя грыбы адварыць і абсмажыць з цыбуляй у масле. У форму, змазаную тлушчам, пакласці палавіну бульбянай масы, грыбны фарш і зверху зноў бульбяную масу. Паставіць у духоўку для запякання. Праз 5—10 мінут паверхню бульбянай бабкі змазаць смятанай для ўтварэння румянай скарынкі і запячы да гатоўнасці. Падаць з маслам ці смятанай.**

**На 5 порцый 1 кілаграм бульбы, 1 сталовая лыжка мукі, 2 сталовыя лыжкі тлушчу, 4 сталовыя лыжкі смятаны, соль.**

**Для фаршу: 120 грамаў грыбоў, 2 сталовыя лыжкі масла, 2 цыбуліны.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 5 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 558. Падпісана на друку 13.04.1993.